# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9). Рэдакцыя адчынена: **12—2** штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

**Год II.** **Вільня. Субота, 13-га траўня (мая) 1922 г.** № 13 (38).


## АБВЕСТКА.

Гэтым давводзіцца да ведама беларусаў, якія знайходзацца ў межах Латвіі, што **Беларускім Культурна-Прасьветным Таварыствам „Бацькаўшчына“**, з 1-га красавіка г. году, **адчынена ў г. Дзьвінску**

## Сельска-Гаспадарская Школа

### з 2-х гадзічным курсам навучаньня.

Школа мае мэтай даць тэорыю і практыку вядзеньня культурнай гаспадаркі. Прыймаюцца ў школу асобы абодвых полаў, не маладзейшыя 14-ці і не старэйшыя 40-ка гадоў, зусім граматныя і ведаючыя 4 арытмэтычныя дзейства. Вакантных мейсц у школцы—30.

Для прыежджых з вёсак пры школцы зроблены інтэрнат.

Просьбы аб прыёмі ў школу трэба загадзя напраўляць па адрэсу: Кіраўніку Беларускай Сельска-Гаспадарскай Школы Таварыства „Бацькаўшчына“, Дзьвінск, Бульварная вуліца, дом № 22.

Праўленьне Таварыства „БАЦЬКАУШЧЫНА“.

---

### Беларускае Культурна-Прасьветнае Т-ва

## „БАЦЬКАЎШЧЫНА“,

закладываючы ў м. Дзьвінску Беларускую Бібліятэку-Чытальню, зварочваецца да ўсіх беларускіх вучоных, пісьменьнікаў і дзеячоў з просьбай не адмовіць у ласкавай прысылцы сваіх твораў і друкаваных кніжак, а таксама партрэтаў і аўтаграфаў для памяненай бібліятэкі.

Кошт кніжак і перасылкі, па жаданьню перасылаючага, будзе зьвернуты Таварыствам з падзякай.

**Праўленьне Таварыства.**

Адрас: Latvija, Daugavpils, Bulvarnaja, 24. Baltkrieva Biblioteka.

---

## У Генуі і дома.

Канфэрэнцыя ў Генуі йшчэ не закончылася, а ўжо, як пішуць польскія газэты, „церпкія плады“ яе зусім дасьпелі, — прынамсі для Францыі і . . . Польшчы.

Перш за ўсё трэба адзначыць, што палітыка Францыі, якая сваю бясьпечнасьць апірае на поўным эканамічным разгроме Нямеччыны, ня сустрэла спогаду з боку самае магутнае саюзьніцы сваей — Англіі. Дый у справе адносін да Расеі Англія зусім выразна йдзе ў напрамку прызнаньня de jure савецкага ўраду і згоды з апошнім, манючыся падзяліць Расею на дзьве „сфэры ўплываў“: англійскую і нямецкую, дапускаючы да эканамічнай адбудовы Расеі Нямеччыну нароўні з сабой. Дык і ў справе расейска-нямецкае ўмовы, якая зроблена ў часе канфэрэнцыі за плячыма Антанты ў Рапальлё, Англія ня лічыла патрэбным выступіць гэтак востра, як таго жадала Францыя.

Усе няўдачы Францыі — гэта ў роўнай меры і няўдачы Польшчы, бо і Польшча бачыць забясьпечаньне свайго дзяржаўнага істнаваньня ў аслабленьні Нямеччыны і Расеі. А як палітычнае палажэньне дзьвюх апошніх дзяржаваў пачало ўзмацоўвацца, дык перад Польшчай ізноў востра стаіць небясьпека з боку гэтых двух суседзяў.

Да таго трэба дадаць, што і французска-польскія адносіны пачалі псавацца. Гэта асабліва ярка выявілася ў тым, што мэморыял у адказ на прапазыцыі Расеі, якога Францыя ня згодзілася падпісаць, Польшча падпісала.

Ня дзіва, што, бачучы ўсё гэта, і Літва, і Расея ізноў падыймаюць перад Эўропай пытаньне аб Заходня-Беларускіх землях, далучаных да Польшчы. Ня гледзячы на стараньні міністра Скірмунта, ні Англія, ні навет Францыя дагэтуль ня прызналі акту „wcielenia“ Віленшчыны да Польшчы, а толькі заявілі, што пытаньне аб ўстанаўленьні усходніх граніц Польшчы яны лічаць сьпешным і паруп'яцца аб хутчэйшае разьвязаньне яго.

Бязумоўна, польская палітыка на „kresach wschodnich“ так сама дае багаты матэрыял для выступленьняў проці Польшчы ўсім яе ворагам. Усе тыя факты гвалтаў над беларускімі школамі, ўсе тыя арышты беларускіх дзеячоў і высылкі іх ці то за межы іх краю, ці ў концэнтрацыйныя лагеры — „за дрот“, аб чым добра вядома на ўсенькім сьвеце, робяць усюды благі для Польшчы настрой. І вось лепшыя сыны польскага народу пачынаюць разумець, куды можа завясьці Польшчу гэная оргія нацыяналізму і рэакцыі, і пачынаюць публічна—з соймавае трыбуны—кляйміць сучасную польскую палітыку нішчэньня „інародцаў“. Мы маем тут на думцы вельмі сымпатычнае выступленьне ў Варшаўскім Сойме дэпутата Рудзіньскага (з партыі „Wyzwolenie“), які горача запратэставаў проці ўціску польскаю ўладаю беларусаў. Рудзіньскі заявіў, што польскай загранічнай палітыцы найгорш шкодзіць нацыянальная палітыка — спэцыяльна адносна да нацыянальнасьцяў на ўсходніх „kresach“. Ён жадае аўтаноміі для гэтых „kresów“. „Гэтага вымагаюць— казаў Рудзінскі — ня толькі нашыя (польскія) будучыя адносіны да Ковенскай Літвы, але і істотная патрэба гэтага краю, які ня ёсьць аднародна польскі, бо мае такжа насяленьне беларускае, літоўскае і жыдоўскае, каторым трэба забясьпечыць поўную аўтаномію“.

Эндэцкія газэты сустрэлі гэту прамову дзікімі лаянкамі, бо праўдзівыя словы прадстаўніка польскіх народных масаў аб палажэньні беларусаў пад польскаю ўладаю павінны зьвярнуць увагу ўсяго культурнага сьвету на тое, як Польшча выпаўняе свае абяцанкі забясьпечаньня правоў нацыянальных меншасьцяў. Але трэба думаць, што польскае грамадзянства дасьць урэшце послух сваім лепшым сыном, паложыць канец зьдзекам над „інародцамі“, ды спыніць „трыумфальны паход рэакцыі, у якім падалі сабе рукі суд, ксяндзы, паны і адміністрацыя“ (словы Рудзіньскага), і пойдзе насустрэчу спаўняньню беларускага незалежніцкага ідэалу.

Бо толькі тады Польшча з вулькану, які можа кожын мамэнт выбухнуць, абернецца ў месца спакойнае творчае працы вольнага польскага народу, забясьпечанае дружбай і спогадам вольных суседзяў.

N. N.

## Гандлёвыя пэрспэктывы Вільні.

Вільня й Віленшчыня—як гандлёвы асяродак у сучасны мамэнт мае такое маленькая значэньня якога яна ніколі ня мела. Калі пад назовам—„Віленшчына“ разумець ня толькі быўшы абшар „Сярэдняй Літвы“, але й паветы: Браслаўскі, Дзісненскі, Дунілавіцкі і Вялейскі, дык дужа вялікай цікавасьці для гандлю і промыслу, пры сучасных абставінах, гэты абшар ня мае.

Ніколі, навет у найлепшыя часы, Віленшчына ня лічылася абшарам вытворчым—маючым столькі збожжа, каб яго хапала ня толькі для сябе, але яшчэ й вывазілася. Наадварот, калі жыта разам з бульбай і хапала на пражыцьце краю, дык пшонная мука і крупы заўсёды прывозіліся. Вільня і мястэчкі іх многа куплялі. Віленшчына заўсёды харчавых рэчэй болей прывозіла чым вывозіла; яна сама сябе пракарміць ня можа. Вываз лёну і льнянага насеньня дужа значнага гандлю ня творыць.

Апошнія гады Вільня і Віленшчына апынілася ў усходнім кутку Польшчы. Увесь абшар на захад: Лідчына, Гарадзеншчына, Воўкавыск ужо не цягнуцца зусім да Вільні—як да гандлёвага цэнтру, а ўсё купляюць безпасрэдна у Варшаве. Паветы: Валожынскі, Стаўпецкі, Вялейскі, частка Ашмянскага, Дунілавіцкі і Дзісенскі таксама купляюць тавары, што падвозецца безпасрэдна з Варшавы чугункай—Полацак-Седлец. Для гандлю Вільні застаюцца паветы: Віленскі, Троцкі, Свянцянскі, частка Ашмянскага і Браслаўскі.

А трэба сказаць, што Вільня з даўных часоў прызвычаілася лічыць сябе за моцны асярадак для гуртовага гандлю, разьлічаючы на Дзьвінск, Полацак, Вітабск, Барысаў, Менск, Ліду, Гродна і на часьці цяперашняй незалежнай Літвы і вяла з гэтым раёнам гандаль дастаўляючы на яго тавары.

Апроч гэтага, будучы разложана на важнам гандлёвым сухапутнам шляху—Вержбалова—Масква—Пецярбург—Вільня была значным транзітным пунктам і тутака рабіліся ўмовы на замежныя тавары.

Расейска-Нямецкі трактат, падпісаны у Рапольлё, яшчэ пагаршае пэрспэктывы на гандэль і промысел у Вільні, бо сухапутны шлях паміж Расеяй і Нямеччынай пойдзе хутчэй праз Літву і Латвію, якія знайходзяцца ў лепшых адносінах з бальшавікамі чым Польшча. Дарогай для сухапутнага гандлю будзе—Коўня—Дзьвінск, мінуючы Вільню.

Ужо пасьля таго як наша вёска, пасьля бальшавіцка польскай вайны у 1920 годзе накупіла даволі тавараў, можна было зауважыць застой у гандлі. Вялікія фірмы, панаехаўшыя ў Вільню разьлічаючы на гандаль з Расеяй, ашукаліся. Ніякага гандлю з Расеяй пакуль што няма. А ў апошні час у гандлю і промысьле ўсё болей адчуваюцца застой і мертвячына.

Такім чынам Вільня, як гандлёвы асяродак, страціла ўсякая значэньне. У будучыне, пры такіх варунках якія ёсьць цяпер, Вільня будзе мець выгляд заштатнага гораду, ў якім павінна быць з пачатку банкротства гандлёвых фірмаў, а ў будучыне капітал будзе шукаць лепшага мейсца і фірмы, перамесьцяцца ў іншая пункты, а жыцьцё Вільні будзе заміраць.

Эс чэ.

# Памяці Кузьмы Тарэшчанкі.

12 сакавіка г. г. ў Менску памёр ад разрыву сэрца адзін з віднейшых беларускіх палітыкаў — Кузьма Тарэшчанка. Жыцьцё яго, цесна зьвязанае з агульным разьвіцьцём беларускае справы за апошнія гады, варта шырэйшага разгляду; цяпер хоць кароткімі словамі успомнім аб гісторыі яго жыцьця і працы ды аб значэньні.

У беларускім руху Тарэшчанка быў адным з рэдкіх пакуль што прадстаўнікоў далёкага беларускага ўсходу. Радзіўся і гадаваўся ён аж у Рослаўскім павеце (ў Смаленшчыне). Бацька яго, заможны тамашны селянін, аддаў сына ў навуку і той скончыў упярод сярэднюю земляробскую школу ў Пскове, пасьля Вышэйшыя С.-Гаспадарскія Курсы ў Петраградзе і выйшаў з яго добры спэцыялісты агроном; першыя часы, скончыўшы школу, Тарэшчанка ўвесь аддаўся спэцыяльнасьці.

Ня толькі аднак спэцыяльныя знаньні вынес ён з школаў, але і нахіл да грамадзкае працы. Мусіць яшчэ ў школе будучы пачаў ён працаваць ў расейскай партыі соцыялістаў-рэволюцыянэраў і карыстаўся з значных уплываў ў мясцовых арганізацыях.

Калі і дзе нацыянальная сьвядомасьць агарнула Тарэшчанку мы ня ведаем. У 1917 годзе ў кожным разе ён ужо працуе ў Пскоўскай беларускай арганізацыі. У канцы 1918 году ён пераяжджае ў Вільню і з гэтага часу пачынаецца яго шырэйшая беларуская праца.

Апынуўшыся на родным грунце ён усёю істотаю уваходзіць у нацыянальны рух і забываецца на ўсё навакола сябе. Быў ён натураю жывою, экспансыўнаю; праняўшыся нейкай ідэяй ён служыў ёй да канца. Дзякуючы сваёй грамадзкай практыцы і на рэдкасьць лагоднаму характару умеў ён зьбіраць ля сябе людзей і прыцягваць іх да працы. Быў вельмі добрым арганізатарам. А самае важнае—быў добрым беларусам. Першай яго працаю было—арганізаваць у Вільні беларускіх эс-эраў. Пасьля ўваходзіць ён у Віленскую Беларускую Раду і прыймае жывы удзел у арганізацыі Міністэрства Беларускіх Спраў пры Літоўскім ўрадзе. Ад імя гэтага міністэрства едзе ён, як павятовы камісар, у Ваўкавыск, праз пару месяцаў наладжвае жыцьцё ў гэтым павеце і будуе гэткую моцную нацыянальную арганізацыю, што пасьля разваліць яе ўлада „Усходніх Зямель“ змагла толькі спосабам нячуваных гвалтаў і тэрору. У першых месяцах 1919 г. К. Тарэшчанка быў запрошаны гр. Луцкевічам у склад Ураду Б. Н. Р. і прыняў там кіраваньне арганізацыйнаю працаю ў краі.

У чэрвені таго-ж году ён праводзіць памысна для беларускае дзяржаўнасьці зьезд Віленшчыны і Гарадзеншчыны, а неяк над восень перабіраецца у Менск і там выбраны старшынёю Цэнтральнага Беларускага Нацыянальнага Камітэту разварочвае наколькі гэта можна было арганізацыйную працу ў вёсках Меншчыны, а часткаю і ў Заходняе Беларусі.

Трэба адзначыць, што калі што ў гэтай справе ў часы польскае окупацыі Меншчыны было зроблена, дык толькі дзякуючы К. Тарэшчанку. А зроблена было відаць шмат, бо прыйшоўшыя ў другі раз у Менск бальшавікі знайшлі тут ужо гэткую нацыянальную сьвядомасьць, што былі змушаны лічыцца з нацыянальным рухам і апеку над ім зрабіць сваім баявым заданьнем.

У часе расколу Рады Рэспублікі 13 сьнежня 1919 г., ён быў выбраны сябром Найвышэйшае Рады Беларускае Нар. Рэспублікі і выйшаў з партыі беларускіх эс-эраў, не згаджаючыся з тактыкаю партыі.

У пачатку 1920 году К. Тарэшчанка рэалізуе сваё даўнае лятуценьне, закладае Беларускі Саюз Сельскае Гаспадаркі, які па яго пляну меўся прынесьці эканамічнае адраджэньне краю.

Ваенныя падзеі лета 1920 году прымусілі К. Тарэшчанкі перанесьці сваю працу ў Заходнюю Беларусь і часткаю заграніцу. Разам з вайсковай камісіяй—апошняй надзеяй беларускай дзяржаўнасьці абапёртай на Польшчу, выяжджае ён з Менску, спадзяючыся, што польская палітыка, навучаная горкім дасьведчаньнем ваенных няўдачаў дасьць магчымасьць стварыць у сфэры сваіх уплываў нейкі беларускі „Пьемонт“. Надзеі гэтыя не спраўдзіліся. Тады К. Тарэшчанка, як прадстаўнік Найвышэйшае Рады Б. Н. Р. едзе ў Латвію, каб згаварыцца з іншымі беларускімі групамі, дык неяк супольнымі высілкамі ратаваць дзяржаўную справу. Вярнуўшыся адтуль ў восен 1920 году робіць Тарэшчанка яшчэ адну спробу абапеці дзяржаўную справу Беларускае Народнае Рэспублікі на больш рэальны грунт. Загарэлася Слуцкае паўстаньне і ён едзе туды, каб адбараніць нацыянальны характар паўстаньня. З нявымоўным шчасьцем і гордасьцяй піша ён з фронту сваім сябром аб першым народным беларускім войску, якое яму давялося бачыць, аб гэтай „першай брыгадзе стральцоў Б. Н. Р.“, якая некалькі тыдняў трымалася на адваяваным сваёй крывёю кавалачку беларускае тэрыторыі. Лятуценьні яго бачылі ўжо блізкае здзейсьненьне далёкага, улюбёнага дзяржаўнага ідэалу. Але лятуценьні былі разьбіты, брыгада зьніштожана; надзея на помач Польшчы раз на заўсёды вырвана з думак Тарэшчанкі. Ён кідае палітычны шлях, якім ішоў дагэтуль, прабуе заняцца чыста-культурнаю працаю—арганізаваць беларускую сельска-гаспадарскую школу, разьвіць дзейнасьць Саюзу Сельскае Гаспадаркі ў Віленшчыне. Усё гэта не удаецца ня гледзячы на вялізарныя высілкі. Пабачыў Тарэшчанка, што беларуская справа на захадзе Беларусі акружана сьценамі безнадзейнасьці. Тэмпэрамэнт не дазваляў яму сядзець у гэтых сьценах і ён пачынае ідэалізаваць Савецкую Беларусь, як адзінае выйсьце для беларускае справы. Хутка ён і перабіраецца ў Менск, каб там весьці далей спыненую на захадзе працу. Аб дзейнасьці яго ў Менску за апошні год ведаем мы мала. Ен не зыйшоў з свае дарогі і як кажуць, навет памёр на грамадзкай варце: на паседжаньні нейкага зьезду.

Страціла Беларусь у К. Тарэшчанку аднаго з найбольш адданых сабе сыноў, здольнага цязморанага арганізатара, разумнага, спрытнага палітыка, дзяржаўнага будаўнічага ў поўным разуменьні гэтага слова. Ня вельмі значнай бывае работа тых людзей, што кідаюць у масы зярняты новых ідэяў, зародкі новых арганізацыяў. У сярдзітую зіму сучаснасьці, колькі-ж гэтых зярнят і зародкаў згінула ад лютых халадоў, колькі іх ізноў-жа ляжыць схаваных, сьпячых, чакаючых на сваё абуджэньне тады, як прыдзе вясна. Не дажыў Тарэшчанка да гэтае вясны і не пабачыць яго вочы сьветлае урачыстасьці Вызваленьня. Няхай-жа жывыя, ці яны згаджаюцца з паглядамі і тактыкаю Тарэшчанкі, ці не,—не забудуцца аб яго мазольнай і няўдзячнай за жыцьця працы, якая увесь час вялася толькі дзеля дабра Беларусі, хай з пашанаю ўспамінаюць аб гэтым чалавеку, якога сэрца ня вытрымала цяжару свае вялікае любові да Бацькаўшчыны, радасьцей і смуткаў гэтае любові, яе нявыплаканых сьлёз, нявысалаўленых уцехаў і разарвалася, як замоцна нацягнутая струна. Хай сыны Беларусі гэтак шчыра аддадуцца справе нацыянальнай, дык ня доўга давядзецца нам чакаць вольнае і незалежнае Бацькаўшчыны.

Л. Будзіловіч.

# Культурная праца ў Савецкай Беларусі.

Весткі з Менску на жаль, даходзяць да нас гэтак рэдка і нерэгулярна, што мы не ўяўляем сабе вялічыні тае культурнае беларускае працы, якая там робіцца. Нядаўна атрымалі мы два №№ „Вестника Комисариата Народного Образования С. С. Р. Б.“, якія высьвятляюць крыху гэтую справу, як яна стаяла ў сярэдзіне і канцы леташняга году.

Усёй прасьветнаю працаю кіруе Народны Камісарыят Прасьветы, ці лепей кажучы, дзьве організацыі, на якія ён дзеліцца: Акадэмічны Цэнтр і адміністрацыйна-организацыйны цэнтр. Работа апошняга—зразумелая; на чале гэтага „цэнтру“ стаіць п. Каценбоген (намесьнік камісара). Для нас, аднак, больш цікавы першы—Акадэмічны Цэнтр, якім да таго-ж і кіруе беларус — Нар. Камісар Прасьветы — проф. У. Ігнатоўскі.

Акадэмічны Цэнтр ёсьць галоўным чынам навуковаю арганізацыяй, якое заданьнем ёсьць тэорэтычнае і праграмовае кіраўніцтва прасьветнаю працаю, ідэёвае абʼяднаньне ўсяе культурнае працы краю, а перад усім—беларускае. „Заданьнем Акадэмічнага Цэнтру, піша Н. Г—скі,—быць ядром нацыянальнае Беларускае культуры, вызначаецца плян працы і конструкцыя яго тэхнічнага апарату. Перад усім Акадэмічны Цэнтр паклапаціўся аб тым, каб выясьніць лік культурных сілаў Беларусі і магчыма хутчэй вярнуць Рэспубліцы культурных працаўнікоў. Дзесяткі высока-кваліфікаваных працаўнікоў сабраны ў Беларусь і ўжо распачалі працу“.

У канцы 1921 году пры Акадэмічным Цэнтры працавалі вось якія ворганы: 1. Навукова-Тэрміналёгічная Камісія. Яна ўжо улажыла і распрацавала беларускую тэрмінолёгію Элемэнтарнае арытмэтыкі, Вышэйшае альгэбры, Граматыкі, Лёгікі, Ботанікі, Зоолёгіі, Тэорыі Славеснасьці і Геомэтрыі. У трох сэкцыях камісіі—гуманітарнай, прыроднай і матэматычнай укладалася тэрміналёгія для Навукі аб праве, Гісторыі, Псыхолёгіі, Паліт. экономіі, Геаграфіі, хіміі, агрономіі, фізыкі, космографіі, мэханікі, дзелаводзтва і інш. Камісія гэтая мае ў цэласьці перайсьці да Інбелкульту. Тэрміналёгія па граматыцы часткаю ўжо надрукована ў тым №, які да нас дайшоў; паводле яе трэба лічыць, што справа гэтая там пастаўлена вельмі паважна. Гэтае самае трэба сказаць і аб 2) Камісіі Пэдагогічнай, якая займаецца разпрацоўкаю школьных праграмаў і некаторыя ўжо была выдала. 3) Літэратурная Камісія выдавала 2-месячнік—літэратурна-навуковы „Вольны Сьцяг“ і дзіцячы—„Зорку“. Апроч таго выданы цэлы рад беларускіх літэратурных твораў і распрацаваны плян выданьня беларускіх падручнікоў. 4) Экспэдыцыя па дасьледжаваньню беларускае народнае творчасьці. У летку яна працавала ў Случчыне, абняўшы досіць шырокі прастор; яна сабрала шмат песьняў, музыкальных рэчаў, тканінаў, фотографіяў і г. д. Апроч таго працавалі Музэйная і Архіўная камісіі. Спэцыяльная камісія распрацавала статут Інстытуту Беларускае Культуры. Задачай гэтае установы мае быць навуковае дасьледжаваньне Беларусі і ўсіх бакоў яе жыцьця, ды падгатоўка навуковых працаўнікоў для гэтае мэты. Мелі ў ім пакуль што быць такія сэкцыі: этнолёгілінгвістычная, літэратурна-мастацкая і культурна-гіста-

Францішк Аляхновіч.

# ШЧАСЬЛІВЫ МУЖ

камэдыя ў 4 актах.

(Глядзі № 12 (37).

Не, нічога!.. Ён сьпіць... добра налізаўшыся... не пачуе.

**Магдалена.** Я тут баюся...

**Мацальскі** (цалуе яе). Ня бойся!... Лікёрчык ты мой! Пумпачка ты!...

**Магдалена.** Не, ня тут, ня тут... Пасьля... Пойдзем цяпер паскакаць!..

**Мацальскі.** Ну, пойдзем!.. Ах ты ягадка! Тру-ля-ля!... (выходзяць).

### Зьява 6.

**Мяшочак, Уршуля, Галька.**

**Уршуля** (уваходзячы з Галькай). Ах, які гэты граф баламут! У часе вячэры ўсьцяж кідаў у мяне то галкамі з хлеба, то скурачкамі апэльсіну, а цяпер танцуе толькі з аднэй Магдаленай!... фу! які баламут! (няшчыра). Не падабаецца мне!

**Галька.** Гэтыя людзі з вышэйшага сьвету ўсе яны такія. Я чула, што яны, як паедуць заграніцу, дык не баруць там шлюбу па нашаму, у касьцёле, а йдуць да нейкага чыноўніка, там распішуцца толькі і жывуць ужо, як муж з жонкай. Зусім як бальшавікі.

**Уршуля.** Ах, фі! фі!.. Што вы кажаце! Вось сорам!

**Галька.** Няма дзіва—усе яны бязбожнікі.

**Уршуля.** Пані Галена! Што я вас хацела спытацца... але ня ведаю як сказаць... трохі сорамна.

**Галька.** Ну?

**Уршуля** (саромліва апусьціўшы вочы). Ці як ужо пасьля шлюбу... і ўжо пасьля вясельля... дык вельмі страшна?

**Галька.** Ха-ха-ха! (сьмяецца і шапоча ей нешта на вуха).

**Уршуля** (млосна). Ах, ах! не кажэце! ах! як страшна!.. ах! я-бы ляпей пайшла ў манастыр, чымсь пазволіла...

### Зьява 7.

**Мяшочак, Уршуля, Галька, Пышка, Шышка.**

**Пышка** (увайшоўшы, ціха да Шышкі). Ты з каторай?

**Шышка** (паказваючы вачыма на Гальку). Я з гэтай.

**Пышка** (паказваючы на Уршулю). А я з гэтай.

**Шышка.** Ну добра... (падыходзяць да жанчын, кланяюцца і вядуць за сцэну ў скокі).

### Зьява 8.

**Мяшочак, Мяшочыха, Леакадка.**

**Мяшочыха** (уваходзячы з Леакадкай). Ты, Леакадка, як граф пакліча цябе ў скокі, дык ты зірні на яго гэтак бокам і ўздыхні: ах!—каб ён, значыцца, сьцяміў, што ты вельмі рада. А як пачне гаварыць да цябе пафранцузку, дык ты не паказвай віду, што на разумееш, але скажы гэтак: ооох! каб, значыцца, можна было падумаць і не, і але...

**Леакадка.** Я ведаю, што рабіць, мамачка!

**Мяшочыха** (выймаючы з сваей торбачкі флякончык з парфумай). Чакай, я вось цябе папарфамую, каб ты не сьмярдзела потам... (Пырскае на дачку парфумай). А калі ён пацісьнець цябе за руку, дык так-сама яго, але не надта моцна, а так крыху і перавярні вочы ўверх ды ціханька гэтак уздыхні: ох!

**Леакадка.** Я ведаю, мамачка!..

**Мяшочыха.** А калі ён будзе казаць, што цябе любіць і жыць без цябе ня можа, дык ты саромліва апусьці вочы ўніз і скажы яму: „пагутарце аб гэтым з маей мамай“...

**Леакадка.** Калі ён нічога гэткага і ня думае казаць, а толькі сьмяецца і шчыпаецца.

**Мяшочыха** (зьдзіўленая). Шчыпаецца?!

**Леакадка.** Але. Усё хапае за бок, то за іншае места і ўсё сваё: „тру-ля-ля“...

**Мяшочыха** (я. в.). Гм. гм... Мусіць цяпер новая такая мода...

**Мяшочак** (праз сон) А я пытаюся... чаму...

**Мяшочыха.** Ах, Божа мой! Калістрат тут сьпіць, а граф можа пабачыць і будзе сьмяяцца... (да мужа, тузаючы яго). Калістрат! а Калістрат! Устань!

**Мяшочак** (праз сон). Адчапіся!... (сьпіць).

**Леакадка.** Граф ужо бачыў, што папа пьяны.

**Мяшочыха** (убачыўшы ў дзьвярох Мацальскага, ціха да дачкі). А вось ён глядзіць на цябе! Ідзі, ідзі, можа ён хоча паскакаць з табой. (Ідуць да дзьвярэй, Мацальскі дае ім дарогу, у дзьвярох робяць цэрамоніі кланяючыся).

**Мацальскі.** О! мэдам!

**Мяшочыха і Леакадка.** Ох, граф! (выйшлі).

### Зьява 9.

**Мяшочак, Мацальскі, пасьля Уршуля.**

**Мацальскі** (абцірае хустачкай пот на твары, падыходзіць да стала, пье піва. Закурывае папіроску).

**Уршуля** (уваходзіць, сядае, зіркае на Мацальскага. Паўза). Ах, як вы добра танцуеце!

**Мацальскі.** Я-ж з вамі здаецца не танцаваў, дык скуль ведаеце?

**Уршуля.** Але я бачыла, як вы... з іншымі.

**Мацальскі.** Але... я вучыўся ў танцклясе Шрайбмана.

Паўза.

рычная; пазьней меліся адкрыцца сэкцыя социяльна-экономічных навук і географіі, мастацтва і г. д. Інстытут меўся складацца з праўдзівых сяброў, якія могуць саўсім самастойна весьці навуковую працу, навуковых супрацоўнікаў і карэспандэнтаў, пры чым навет у навуковыя супрацоўнікі будуць выбірацца Інстытутам людзі з вышэйшай адукацыяю. Па сваёй організацыі гэта ўжо саўсім Беларуская Акадэмія Навукаў (між іншым—Украінская Акадэмія Навук даўно ўжо істнуе у Сав. Украіне); падобную-ж організацыю маюць і жыды: Інститут жыдоўскае культуры. Вестак аб дальнейшай організацыі і працы Інбелкульту, нажаль, мы ня маем.

Працавалі ў тым-жа часе ў Менску яшчэ дзьве паважных навуковых організацыі: Вольна-Экономічнае Таварыства пры Палітэхнікуме, дзе 20 лістапада аграном Ярашэвіч чытаў рэфэрат аб грунтах Беларусі, ды Менскае Т-ва Гісторыі і старасьветчыны, дзе працуюць між іншым праф. Пічэта (гісторыя Беларусі) і праф. Н. Янчук (этнографія), абодва вядомыя і заслужоныя беларусазнаўцы.

Пад загадам Акадэмічнага Цэнтру працуе яшчэ і Беларускі Акадэмічны Тэатр. Ад 1 лістападу пр. году склад трупы зьменшаны. Складаецца яна цяпер з 36 чалавек, тады як расейская—з 32-х, а жыдоўскае з 28 чал. Беларускаму тэатру аддадзены лепшы тэатральны будынак—даўнейшы меставы тэатр. Акадэмічны тэатр даваў у восень ў сярэднім па 10 спэктакляў на месяц. У рэпэртуары ўвесь час зьяўляюцца новыя рэчы. З іх асаблівую ўдачу мае п'еса М. Кудзелькі „На купальле“.—Апроч акадэмічнага тэатру спэктаклі даюцца і ў 2-х беларускіх клюбах—старой „Беларускай Хатцы“, што на конскім рынку, ды у Беларускім Работніцкім Клюбе—ў будынку, дзе быў даўней Акварыум. У Маскве адкрыта беларуская тэатральная студыя, якая мае падгатаваць добра кваліфікаваных беларускіх артыстаў. Адкрываецца і ў Менску школа мастацтва.

У другой палове мінулага году у зьвязку з агульнай перабудоўкай савецкае гаспадаркі адбыліся важныя зьмены і ў паглядах на задачы і спосабы арганізацыі школы, ды пачалася школьная рэформа. Наймацней кратае яна сярэднюю школу. Агульна—прасьветная сярэдняя школа ў цэласьці (гімназія) прызнана раскошаю, на якую сябе савецкая дзяржава дазволіць ня можа. Усю сваю ўвагу школьная ўлада зьвяртае на 1 ступеню школы, якая даводзіцца па меры магчымасьці да 7-х аддзелаў. Вышэйшыя пачатковыя школы, якія ўперад былі перароблены ў школы 2-ое ступені (4—7 кл. гімназіі) цяпер ізноў вяртаюцца на палажэньне пачатковых школ; да іх дадаюцца малодшыя клясы і яны абяртаюцца ў звычайную сямігодную школу 1-е ступені (адпавядаючую поўнай польскай агульнай школе, або пачатковай школе і 3 клясы гімназіі). Заместа-ж усіх даунейшых сярэдніх школ адкрываюцца тэхнікумы—спэцыяльныя сярэднія школы, якія адрожніваюцца па спэцыяльнасьці. У Беларусі найбольш увагі зьвернута на пэдагогічныя і сельска-гаспадарскія тэхнікумы, што і зразумела. У Менску істнуюць 3 пэдагогічныя тэхнікумы: беларускі, расейскі і жыдоўскі. Беларускі зьмяшчаецца у даўн. Рэальнай Школе. Вучыцца у ім 330 чал. Лектараў там 26 чал. Курс навукі разьлічаны на 4 гады; адкрыта было ўжо 3 клясы. Цэлы рад пэдагогічных тэхнікумаў істнуе ў правінцыі—ў Барысаве, Бабруйску, Мазыры, Петрыкаве (Мазыр. пав.) ды Ігумене. На жаль у-ва ўсіх, здаецца, гэтак тэхнікумах выклады ідуць па расейску. Але побач з тэхнікумамі істнуюць яшчэ пэдагогічныя курсы, ў якіх беларуская мова выразна пераважае. Гэтак у Менску істнавалі у 1921 г. 1) 10-цімесячныя вучыцельскія курсы (у будынку даўнейшае 1-е Беларускае Гімназіі на Александраўскай вул.). Вучылася там 80 чал.; лектароў было—15 чал. 2) 9-х месячныя лектарскія курсы пры Пэдагогічным тэхнікуме, дзе было 60 слухачоў і 18 лектараў і 3) Курсы дашкольнага ўзгадаваньня (1-гадавыя), дзе слухачоў было 100 чал., а лектароў—15 чал. У 1922 годзе лік пэдагогічных тэхнікумаў меўся быць даведзены да 9-х, а пэдагогічных курсаў—да 20-х.

Жыдоўскі аддзел шырака паставіў справу прафэсіональна-тэхнічнае прасьветы; адкрыў ён 8 праф.-тэхнічных школ (кравецкіх, гарбарскіх і г. д.). На жаль нічога ня чуваць аб падобных беларускіх школах, тым больш, што гэткія школы маюць і расейцы і палякі. У адчоце гэтых расейскіх школ паказана, што сярод вучняў саўсім няма беларусаў, тады, як навет ёсьць вучні крыху дзіўнае „мусульманскае“ нацыянальнасьці.

(Канец будзе).

# Беларусы ў Латвіі.

### Беларуская Сельска-Гаспадарская школа ў Дзьвінску.

Дзьвінск. 24. IV. 22 (ад уласнага карэспандэнта). Беларуская Культурна-Прасьветнае Т-ва „Бацькаўшчына“ адчыніла ў м. Дзьвінску з 1-га гэтага красавіка Беларускую Сельска-Гаспадарскую школу з 2-х гадавым курсам навучаньня.

Міністэрства Земляробства адпусьціла школе грашовую дапамогу.

Кіраўніком школы запрошаны Т-вам аграном—беларус, гр. Васіль Ластаўкін.

Вучэньне ў школе пачынаецца 15-га жніўня.

Запісь вучняў ўжо распачалася.

### Беларуская Гімназія ў Дзьвінску.

Дзьвінск. 24. VI. 22 (ад уласнага карэспандэнта). Міністэрства Прасьветы зацьвярдзіла Беларускую Гімназію ў м. Дзьвінску.

На гімназію, па захадам Беларускага Аддзелу і Т-ва „Бацькаўшчына“, адпушчана Латвійскім Урадам 1.300.000 латвійскіх рублёў. Гэта значыцца, лічучы на польскую марку,—больш 20.000.000 м.

Кіраўніком гімназіі, згодна просьбы Т-ва „Бацькаўшчына“, зацьверджаны вядомы беларускі дзеяч, гр. Ян Краскоўскі, які ўжо і прыбыў ў Дзьвінск.

# Што чуваць у сьвеце?

### Мэморандум Беларускага Ураду.

Старшыня Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі п. В. Ластоўскі 3 траўня перадаў старшыне Генуэскай канферэнцыі і прадстаўнікам прадстаўленых на ёй дзяржаў мэморандум, ў якім пратэстуе супроць падзелу Беларусі між Расеяй і Польшчай.

### Новая канфэрэнцыя ў Празе.

Ёсьць думка, пасьля генуэскай канферэнцыі склікаць новую канферэнцыю ў Празе, якая мусіць заняцца вырашэньнем выключна расейскага пытаньня. (Славбюро).

### За прызнаньне бальшавікоў.

Газэты паведамляюць, што прэзыдэнт Гардынг на паседжаньні рады міністраў выказаўся за прызнаньне Сав. Расеі. Тэй жа думкі трымаецца й Хувэр. (Славбюро).

### Генуэская канферэнцыя.

— Узаемны адказ ад спаганяньня вайсковых стратаў, стаўшы галоўнай падвалінай расейска-нямецкай умовы, зрабіў на Л.-Джоржа вялікае ўражаньне. Апошняя прапазыцыя Л.-Джоржа мае ў сабе адказ Англіі ад часткі яе рэпарацыённай масы на карысьць Францыі, калі апошняя згадзіцца на вялікія палегкі па выплаце Нямеччынай сваіх даўгоў. Гэта прапазыцыя разглядаецца, як фактычны адказ Англіі ад сваіх даўгоў.

— Пасьля расейска-нямецкай умовы, найбольшай вагі на канфэрэнцыі набіраецца расейскае пытаньне, якое да гэтага часу ня вырашана і дзяржавы ня могуць у справе яго паразумецца. Дзяржавы Антанты даручылі сав. дэлегацыі мэморандум, які Францыя і Бэльгія адмовіліся падпісаць, як нязгодны з іх дзяржаўнымі інтарэсамі.

— Калі ня будзе дайдзена да агульнага паразуменьня з Расеяй, то Англія й Італія зробяць сэпаратныя умовы з Сав. Расеяй.

— Адносіны між Англіяй і Францыяй пагаршаюцца. Францыя стараецца замяніць Англію Малай Антантай.

— Расейская дэлегацыя дамагаецца, каб атрымаць крэдыт ў суме 3 міліярдаў руб. у золаце і гэта не як прыватны крэдыт, але як дзяржаўны. Думаюць, што сёньня ніводзін парлямэнт ня можа такай значнай сумы ухваліць.

— Барту ў гутарцы з прадстаўнікамі прэсы выказаў думку, што ключ утвараючыхся на канфэрэнцыі сытуацый знайходзіцца ў руках Расеі.

— Сягоньня не мажліва прадбачыць, як доўга трымаціма канфэрэнцыя. Дапушчаюць, што мажліва да чэрвяня.

— На паседжаньні палітычнай падкамісіі Л.-Джорж сказаў, што справа Усходняй Галіччыны і польска-літоўскай граніцы мае быць хутка вырашана.

### Нямеччына й Прыбалтыцкія дзяржавы.

У зьвязку з умовай у Рапальле, Латвія, Літва й Эстонія уцягваюцца ў сфэру расейска-нямецкай эканамічнай умовы. Устанаўленьнем чугуначнага шляху Каралевец—Коўня—Дзвінск—Масква створана магчымасьць для расейска-нямецкага тавараабмену, пры чым Польшча й Віленшчына застаюцца ў старане ад торговага шляху з Нямеччыны ў Расею.

### Усходняя Галіччына.

Дзяржавы згоды ўсё балей згаджаюцца з думкай абвесьціць Усходнюю Галіччыну незалежным гаспадарствам. Усход. Галіччына зьяўляецца ў эканамічным сэнсе важным мостам, злучаючым Усход Эўропы з Захадам, у чым зацікаўлена многа дзяржаваў. (Славбюро).

### Студэнцкая сходка ў Празе.

22 красавіка адбыўся ў Празе вялікі сход беларускага і украінскага студэнцтва. Прысутные вынясьлі рэзалюцыю—пратэст супроць арыштаваньня украінскіх студэнтаў у Львове.

# Літоўскія справы.

### Маніфэстацыя.

У Коўні й іншых местах Літвы, адбыліся маніфэстацыі пратэсту супроць прылучэньня Вільні да Польшчы. На мітынгу ў Коўні прамаўлялі літоўскія, беларускія й жыдоўскія грамадзкія дзеячы. (Вавбюро).

### Пачынаецца рэакцыя.

Літоўскі Сойм адкінуў у 2-м чытаньні законапраэкт аб аўтаноміі нацыянальных меншасьцяў у Літве. Ходзяць ня зьвераныя чуткі, што ліквідавана міністэрства Беларускіх спраў.

---

**Уршуля.** Вы такі сумны: вы мусіць закахаўшыся, або вершы пішаце?

**Мацальскі.** За шмат гарэлкі выпіў... Яшчэ перад тым, як прыйсьці сюды, спаткаўся з адным прыяцелям і мы здорава сербанулі.

**Уршуля.** Ці вам больш падабаюцца брунэткі ці бляндынкі?

**Мацальскі** (сьмяецца). О! я ўселякіх люблю, калі толькі прыгожая і маладая...

**Уршуля.** Ці вы маглі-б палюбіць асобу, каторай чыстае дзявочае сэрца яшчэ не спазнала каханьня і каторая ўсей душой першы раз у жыцьці палюбіла-бы вас?

**Мацальскі.** Чаму-ж не? Гэткія здарэньні ў мяне ўжо былі.

**Уршуля.** Ах, я бачу, што вы баламут... Граф! павахлюйце крыху, я так змарылася! (дае яму свой вахляр).

**Мацальскі** (д. с.). Чаго баба да мяне прычапілася! (Голасна, узяўшы вахляр і вахлюючы). Ня трэба так многа сказаць, дык-бы й не замарыліся.

**Уршуля.** Ах, я так люблю скокі!

**Мацальскі.** Ну, выбачайце, рука баліць, не магу больш... (аддае ей вахляр і выходзіць).

**Уршуля** (адна). Ах, як ён на мяне глядзеў! ах, як глядзеў!.. Або цяпер або ніколі!.. Ен будзе мой, ён будзе мой! (выходзіць за ім).

**Зьява 10.**

**Мяшочак і Гаўдэнт.**

**Гаўдэнт** (уваходзіць і глядзіць за сцэну). А той гад ізноў прыклеіўся да мае Магдзі!.. О! хваціў яе за падпаху і цягне сюды... Схаваюся, даведаюся, аб чым яны будуць гутарыць. (Хаваецца за канапу, на якой сьпіць Мяшочак).

**Зьява 11.**

**Мяшочак, Гаўдэнт, Мацальскі, Магдалена.**

**Магдалена.** Ах, калі я так баюся!

**Мацальскі.** Ня бойся, ціпачка, ніхто-ж аб гэтым ня будзе ведаць, ты прыйдзеш праз другія дзьверы,—не ад вуліцы, значыцца, а праз браму, праз кухню...

**Магдалена.** Калі-ж так неяк... не выпадае...

**Мацальскі.** Праз кухню выпадае. Нікога у кватэры ня будзе, буду толькі адзін я... буду чакаць...

**Гаўдэнт** (высунуўшы галаву з-за канапы, чуе ўсё гэта). А! вось як!..

**Мацальскі** (не бачучы Гаўдэнта). Каб ты, пумпачка, не забылася, я напішу табе свой адрэс...

**Магдалена.** Ах, каб толькі мой муж не даведаўся!

**Мацальскі.** Ніхто не даведаецца. Зачынім дзьверы на ключ... і будзем шчасьлівы!

**Гаўдэнт** (я. в.). Вось і даведаўся!

**Мацальскі.** Значыцца добра? Прыйдзеш?

**Магдалена.** Ах, калі я сама ня ведаю... Ну, добра...

**Мацальскі** (абыймаючы яе). Ах, пумпачка ты мая! (цалуюцца).

**Гаўдэнт** (кашляе знарок).

**Магдалена** (ускопіўшыся). Ах!..

**Мацальскі** (не страціўшы рэзону). А гэта... вось гэты новы танец трэба так... вось значыцца тру-ля-ля...

**Магдалена** (да мужа). Пан граф навучае мяне скакаць новы танец... (да Мацальскага). Як гэта завецца?

**Мацальскі.** Тіп-топ.

**Магдалена.** Але. Тіп-топ. Страшэнна трудны, але вельмі модны.

**Гаўдент** (вылезшы з-за канапы). Можа ён і модны, але не надта трудны. (Выйшаў).

**Зьява 12.**

**Мяшочак, Мацальскі, Магдалена.**

**Магдалена** (ціха да Мацальскага). Здаецца чуў?

**Мацальскі.** Ну, нічога, ён-жа майго адрэсу ня ведае, ён нам не перашкодзіць... Вось я табе зараз напішу свой адрэс, а ты яго добра схавай, каб раптам твой муж не знайшоў...

**Магдалена.** Ах, не, не! я баюся! Ня трэба, я не прыйду! (пайшла за сцэну).

(Працяг будзе).

# МАЛІТВА ЎЦЕКАЧА.

Ты дакляруеш мне долю і волю? Мне на чужой старане трэ' палацы? Ты мне гаворыш, што зьлёт груганоў зьнішчыў мой край, смерць гнязд там зьвіла?..

Бедны ён? Пушчы? Балоты? Каменьні? Стогнець народ пад пятой Жыцьця — ката? — Годзе! Чакаю я толькі той дзень, стальлю калі акуецца рука!

Вецер! Мой вольны браточак ты вецер! Крыльля мне!.. Крыльля свае ты пазычыш!? — Я паляту, паляту... Хай жыве край сасонак, кляноў і лазы!..

Дам тым вадзіцы, што бьюцца за шчасьця, тых пракляну, што нам Юдамі сталі... Прыйдзе наш час, веру—прыйдзе наш час!

Вецер! Мой любы! — Чакаюць там нас...

Ўладзімер Дубоўка.

Масква. 23—III—22.

**Францыя прызнае Літву de jure.**

Французскі урад паведаміў літоўскую дэлегацыю ў Генуі, што на гэтых днях урад французскі прызнае Літву de jure (па праву).

# Да маладых.

Беларус малады, што гальчэеш бедак!
Паўстань, выйдзі з хваль ніў залацістых;
Зварухні, скліч, з'еднай як ты гэткіх ваяк,
Чые рукі ў значках мазалістых.

І нясеце моц пушч, разгул бур веснавых,
Праўд і песянь негаданых, новых.
Узгарыце мяжу між сваіх і чужых,—
Знаймо вольных, працоўных, здаровых.

Юнакі-сілачы вызваляйце Зямлю
Ад паганых рук старага сьвету—
Ўжо спрухнеў гэты сьвет,—хай-жа тлусьціць ральлю;
Быць хоць раз ураджайнаму лету.

Многа ёсьць злыбяды, ліхадзеіць туга,
Дармаед сваяволіць ў бесправе,
Пухнець з роскашы пан, прадаў душу слуга...
Эх, няўжож гінуць нам у неславе?!

Не! Яшчэ сонца ёсьць, руніць поле вясной,
Льдом адвечным вада не скавана,
Ёсьць яшчэ узлёт дум грамады маладой,
Што у працы цяжкой гартавана.

Дык дарогу шырэй недалюдкі, брыда!
Дык дрыжы, хто няпраўдай жыць хоча!
З песьняй помсты ідзе маладых грамада.
Маладое жыцьцё нам прароча.

Іх прызвала жыцьцё, іх, зямелькі сыноў,
Надзяліла іх неба натхненьнем.
І ўсé поплеч ідуць з усялякіх краёў,
Ўсе сярмяжнікі, волаты, гэній.

Л. Р.

# Нейтралізацыя польскага калідору.

Пытаньне аб нейтралізацыі польскага калідору ізноў парушана. На гэты раз данцыгскай прэсай і, магчыма, будзе падтрымана Данцыгскім Урадам у Радзе Лігі Народаў.

Як ведама, Данцыгская тэрыторыя агорнута, бадай, з усіх бакоў, так званым, польскім калідорам і каб яго праехаць патрэбна польская віза. Польскае кансульства ў Данцыгу мае права адмовіць выдаць візу і гэтым паставіць не аднаго данцыгскага грамадзяніна ў крытычнае становішча. У апошнія часы, калі данцыгская ўлада пачала высяляць палякоў з Данцыга, польскі пасол, Плюшчынскі адкрыта прыстрашыў поўным закрыцьцем калідору для данцыгскіх грамадзян.

Нямецкая прэса ў Данцыгу горача пратэстуе супроць такой палітыкі Польшчы, шкоднай для данцыгскага гандлю і напамінае аб неабходнасьці падняць у Лізе Народаў пытаньне аб польскім калідоры. Газэта „Danciger Neueste Nachrichten“ зьвяртае ўвагу Данцыгскага Ўраду на тое, што істнуюць катэгорыі жыхараў Данцыга, якім польская улада сыстэматычна адмаўляець у праве праезду праз калідор, гэта—беларусы, украінцы й літоўцы. Для грамадзян Беларусі, Украіны і Літвы шлях з Данцыгу ў Заходнюю Эўропу наагул зачынены. А тым часам, піша газэта, сярод гэтых грамадзян ёсьць шмат такіх, хто пастаянна жывуць у Данцыгу палажыўшы тут сваю працу, капітал і энэргію. Беларусы, Украінцы і Літоўцы дзякуючы Польшчы пазбаўлены самых элемэнтарных правоў—свабоднага пераезду і ад гэтага цярпяць справы Данцыгу. Газэта патрабуе, каб Данцыгскі ўрад падняў у Лізе Народаў пытаньне аб свабодным пераездзе праз польскі калідор ня толькі данцыгскім, але беларускім, літоўскім і украінскім грамадзянам, жывучым у Данцыгу.

Ёсьць чуткі, што камісар Лігі Народаў у Данцыгу, англійскі генэрал Гэкінг вельмі прыхільна прыняў гэтую прапазыку — Нейтралізацыю польскага калідору.

10 траўня ў Жаневе мае адбыцца чароднае паседзаньне Рады Лігі Народаў, на якім будзе разглядацца і пытаньне аб нейтралізацыі польскага калідору.

**Пінчук.**

Данцыг, 1922 г.

# Беларускі студэнцкі рух у Маскве.

Нам пішуць з Масквы, што там заўважваецца вялікі рух сярод студэнтаў беларусаў. Пры кожнай высшай навуковай установе істнуе асацыяцыя студэнтаў-беларусаў, якіх налічваецца больш дзесяці. Усе яны гуртуюцца каля цэнтр. бюро белар. студэнцкіх асацыяцый м. Масквы й маюць свой „Белар. студэнцкі клюб“, у якім адбыўся рад лекцыяў і зборышч. Чыталі: праф. Растаргуяў „Аб белер. мове“, праф. Пічэта „Заданьні белар. студэнцтва“ й іншыя; Сьвяткавалі ўгодкі сьмерці Алеся Гаруна, з удзелам песьняра М. Кудзелькі. Буйнейшаю і мацнейшаю з студэнц. арганізацый зьяўляецца Бел. Культ.-Навуковая Асацыяцыя студэнтаў Пятроўскай Сел.-Гасп. Акадэміі, якая ў сучасны мамэнт налічвае каля 150 сяброў. Асацыяцыя заснована ў пачатку 1922 г. і ставіць сваей мэтай культ.-экан. адраджэньне Беларусі. На чале яе стаіць Гаўрыла Гарэцкі, брат пісьменніка Максіма Гарэцкага. Асацыяцыя карыстаецца вялікай пашанай сярод прафэсуры й ўсяго студэнцтва і зьяўляецца адной з самых здольных студэнцкіх арганізацый, якіх у Акадэміі балей 30. Асацыяцыя ў сьценах Акадэміі вядзе працу па беларусазнаўству, навукова-досьледчую (вылічэньне народ. багацьцяў Беларусі) і культурна-асьветную (экскурсіі, бібліятэка, клюб, бел. вечарыны, хор). Асацыяцыя дагаварылася з камісарыятам земляробства Беларусі і мае для сваіх сяброў вельмі сходную практыку. Вядзе падгатоўчую працу да экспэдыцыі для досьледаў народнае гаспадаркі Беларусі пад кіраўніцтвам праф. Н. Аганоўскага.

Нядаўна ў Маскве з'арганізаваўся бел. выдав. каапэратыў „Маладая Беларусь“, які пачаў выдаваць альманахштамесячнік пад гэткай-жа назвай. Першы нумар яго хутка выйдзе з друку. У ім будуць зьмешчаны акрамя студ. твораў і допісаў, творы Янкі Купалы, З. Бядулі, М. Гарэцкага, а так сама артыкулы прафэсароў Фартунатава, Кулагіна і інш.

# Карэспандэнцыі.

**МІКАЛАЕЎСКАЯ гміна, Дзісенскага пав.**

Яшчэ з пачатку гэтага году выбралі мы гмінную раду, але да гэтага часу яна не працуе.

Бяда ў тым, што яе ня можна ў людзі паказаць, бо пераважным лікам мужыцкае. Гэта яшчэ-б нічога, каб толькі мужыкі былі „добрымі“ і слухалі паноў, а то ім трэба зусім ня так, як пан кажа. Дазволілі радзе зрабіць першае паседжаньне, каб выбраць войта гміны і выбрала яна войтам селяніна Крука. А паны й ня хочуць яго, бо, кажуць, у бальшавікох служыў (у свой час быў змабілізаваны да чырвонай арміі) хоць і цяперашні наш войт, пан Варановіч, з засьцянковых шляхтаў, вялікім чалавекам быў у Дзісненскім павятовым „Ваенкоме“.

Як рада паказала сябе з дрэннае стараны, дык яе больш да працы ня клічуць, а выбраны войт так і застаўся толькі выбраны, але не зацьверджаны.

**Сябра.**

**ЛЯБЕЦКАЯ гміна, Лідскага пав.**

У нашай ваколіцы быў калісь пан Стан. Грабоўскі—добры гаспадар: ніколі і і нікому не прадаваў з свайго лесу навет і галіны. Ен ў часе сусьветнай вайны памер ў Парыжу, а фальваркі яго з лесам разабралі яго родныя, якія адразу пачалі нішчыць лясныя багацьці. Прадалі вялізны бор над Нёманам і каля станцыі Скрыбавы спусьцілі больш, як 200 дес. Павырубалі ня толькі страевы лес, але навет і малады хвойнік і ельнік. А усім сялянам, якія зварочваліся да гэтых паноў купіць лесу на хаты, адзін адказ, „не спшэдам“. Мало таго п. Верашчака (адзін з наследнікаў) умее абхадзіць распараджэньні камісіі па адбудове спаленых будынкаў з Ліды, каб ня аддаць ні адной хвойкі сяляніну. Вышайназванай камісіяй для вёскі Скрыбаўцы Лябецкай гміны быў назначаны лес для адбудовы з участка п. Верашчакі. Астатні звярнуўся да Ліды у камiссію—і да гэтага часу затармазіў выдачу матар'ялу на адбудову. Наш лес з пад носа адпраўляюць за граніцу, а мы павінны гніць і мерзнуць у курных даўно разваліўшыхся хатках.

**П[illegible]крыўджаны.**

# Беларускае жыцьцё.

**Ад'езд грам. Я. Чарапука ў Амэрыку.**

10 траўня з м. Лібавы параходам «Эстонія» ад'ежджае у Амэрыку Сябра Рады Беларускае Народнае Рэспублікі грам. Я. Чарапук, які да гэтага часу працаваў у Дыпляматычным Прадстаўніцтве Беларусі пры Літоўскім Урадзе. Там грам. Чарапук будзе займацца грамадзкай і культурна-прасьветнай працай сярод беларускага грамадзянства у Амэрыцы.

Вялікую дапамогу ў атрыманьні амэрыканскай візы зрабіў сам консул Эдварс, які вельмі зацікаўлены беларускай справай.

**Прывітаньне з Прагі.**

Студэнт Праскага ўнівэрсытэту Гэньюш, родам з Горадзеншчыны, шле з Прагі прывітаньне сваім родным і знаёмым. Варта зауважыць што Гэньюш у свой час быў ня прыняты „Кваліфікацыйнай Камісіяй“ да Віленскага унівэрсытэту.

**Беларусаў вывозяць з бацькаўшчыны**

Нядаўна у сваім м. Мігаўцы, радашкоўскай гміны арэштованы і вывезены у канцэнтрацыйны лагер у глыб Польшчы стары беларускі дзеяч Александар Уласаў. Абвінавачваюць яго, у Савінкаўскай нібы то, рабоце, хоць у той самы час запраўднага савінкаўца, які жыў у аколіцах Радашкавіч, п. Гаінкава толькі папрасілі выехаць. Беларускія колы вельмі узрушаны такой бязпраўнасьцю і лічаць гэта за новы спосаб з боку польскага ўраду пазбавіць беларускі народ яго інтэлігенцыі.

**Кс. Абрантовіч—дырэктарам гімназіі.**

Вялікімі высілкамі і стараньнямі вывезанаго ў глыб Польшчы бел. дзеяча Ал. Уласава і п. Крачкоўскага, атрыман дазвол на аткрыцьце у м. Радашковічах белар. гімназіі. Дырэктарам яе назначаны і зацьверджаны знаны далёка за межы бацькаўшчыны беларус. кс. Абрантовіч.

**ПАДЗЯКА.**

Зборка ахвар на карысьць Беларускага дзіцячага Прытулку 30 красавіка дала: 347697 мар. пол.; парваных грошаў на суму 1909,50 мар.; нямецкую срэбную мар.—1; ост-марак—9 і адну мядзяную рас. капейку.

Скрынак было выпушчана для збораў 106.

Беларускае таварыства Дапамогі Ахвярам вайны прыносіць шчырую падзяку усім ахвярадаўцам, а таксама усім зборшчыкам і зборшчыцам, якія сваей працай далі магчымасьць на нейкі час забясьпечыць хоць скромнае харчаваньне прытулку.

Управа Белар. Тавар. помачы ахвярам вайны.

**Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток абвяшчае першы конкурс на сцэнічныя беларускія творы.**

За 3 найлепшыя п'есы будуць выданы аўтарам прэміі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1-я ў разьмеры | 75.000 | польск. | мар. |
| 2-я „ „ | 50.000 | „ | „ |
| 3-я „ „ | 25.000 | „ | „ |

Прэміі будуць прысуджаны спэцыяльна назначэнай камісіяй, сябры якой удзелу ў конкурсе браць ня будуць.

Рукапісы, прысланыя на конкурс, павінны быць надрукаваны на машыне, альбо чытальна напісаны на адным баку паперы, толькі ня рукой самаго аўтара, калі ён ужо шырока вядомы як літэратар. Прысылаць рукапісы трэба ў закрытым пакеце, куды павінна быць укладзена запіска з запраўдным прозьвішчам, імем і адрэсам аўтара. Запіска гэта павінна быць напісана рукой самаго аўтора, закрыта ў асобны канвэрцік, на якім рукою таго, хто пісаў рукапіс, трэба напісаць загаловак п'есы.

Калі аўтар захоча скрыць свае праўдзівае імя і выбера сабе псэўдонім, дык аб гэтым павінна быць сказана ў ў запісцы з яго ўсе такі праўдзівым імем і прозьвішчам з паказаньнем выбранага псэўдоніму. Запіска з імем аўтора будзе расьпечатвацца толькі тады, калі за яго п'есу будзе прысуджана прэмія.

Прэміраваныя п'есы будуць выданы Музыкальна-Драматычным Гуртком, як асобны зборнік з адлічэньнем з кожнага экзэмпляра 10% на карысьць аўтараў.

П'есы могуць быць напісаны вершам і прозаю абавязкова на беларускай мове і прысланы не пазьней 15-га жніўня (аўгуста) 1922 году па адрэсе:

**Вільня, Біскупская вул., № 12, у Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток (КОНКУРС).**

2-га верасьня 1922 году, у памешканьні Б. Муз.-Драм. Гуртка, адбудзецца ўрачысты вечар раздачы аўтарам прэміяў пры шырокім удзеле публікі, якая на вечары быць пажадае..

П'есы ўжо стаўленыя на беларускай сцэне, ці быўшыя ў друку разглядацца конкурснай камісіяй ня будуць. Яны павінны быць арыгінальнымі, а не пераложанымі з іншых моваў.

Пры друкаваньні прэміраваных п'есаў Б. М.-Д. Гурток пакідае за сабой права рабіць рэдакцыйныя папраўкі.

Сэкрэтар **М. Шчансновіч.**

**Агульны сход сяброў Каап. „Райніца“.**

Управа Каапэратыва „Райніца“ просіць сяброў прысьці на чарговы агульны сход сяброў «Райніцы» у нядзелю 21 траўня г. г. які адбудзецца ў залі беларускай гімназіі (Вастрабрамская 9) а гадз. 12½ дня.

На выпадак не прыбыцьця ў назначаны час патрэбнага ліку сяброў, сход пераносіцца на 1½ г. таго-жа дня, які і будзе правамочным пры ўсякім ліку сабраўшчыхся.

# Пісьмо да рэдакцыі.

Паважаны пане рэдактар!

Прашу надрукаваць у Вашай газэце ніжайпісанае:

У „Gazecie Krajowej“ № 101 быў апублікаваны вывяд (інтэрвью) са мною, як старшынею Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Гэтым заяўляю, што падобнае інтэрвью сапраўды мела мейсца, але некаторыя з апублікаваных у „Gaz. Krajewej“ пытаньняў зусім ня былі закрануты, а некаторыя ня зусім правідлова сфармуляваны.

З пашанай

**Ф. Ярэміч.**

Старшыня Белар. Нац. Камітэту.

# Паштовая скрынка.

*Данілу Ас-у, Лебедзево.* Грошы атрымалі. Газэту пасылаемо. Пішэце, што ў Вас чуваць

*Міхалаю Т.-Н. Ліда.* Вы просіце надрукаваць Ваш верш, а калі не, то „захаваць дзе небудзь, каб было ведама, што быў такі, што шкадаваў і плакаў па сваей роднай Матцы Беларусі“.

Надрукаваць вершык мы не надрукуем—бо слабы, а што захаваць, то варта. Беларусы, ведаючы, што сьлязьмі гору не паможаш, даўно кінулі плакаць і жаліцца на долю, а змагаюцца і мазольна працуюць, будуючы лепшую будучыну, а вось спатыкаюцца яшчэ анахронізмы.

Толькі час дарэмна марнуюць!

Studentsky domow, Прага. Пісьмо Ваша атрымалі. Газэта й на далей будзе пасылацца.

*Кастусёнак, Латвія.* Адрэсы, што Вы паслалі нам, атрыманы й скарыстаны. Шчыра дзякуем.

*В. Варакса, Францыя.* Газэта Вам пасылаецца акуратна. Па незалежачым ад рэдакцыі тэхнічным варункам выхад чарговага нумару быў затрыман.



Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна М.-Сьцяпанаўская, 23. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.